*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны




Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 43 (255) | 25 кастрычніка 1995 г. | Кошт — 500 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ

○ ***ДЭЛЕГАЦЫЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА ЧАЛЕ СА СПІКЕРАМ ПАРЛАМЕНТА МЕЧЫСЛАВАМ ГРЫБАМ ПРЫНЯЛА ЎДЗЕЛ*** *у рабоце 94-й канферэнцыі Міжпарламенцкага саюза. У пасяджэннях, якія прайшлі ў Бухарэсце, удзельнічалі прадстаўнікі 136 краін свету, у тым ліку 35 кіраўнікоў парламентаў. Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб сустрэўся і пагутарыў з прэзідэнтам Румыніі І.Іліеску, старшынём палаты дэпутатаў Румыніі А.Нэстасе, старшынём Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Х.Марцінесам і прэзідэнтам Міжпарламенцкага саюза Ж.Карпіенам.*

○ **У ЛІДЗЕ СТВОРАНА ГРАМАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ** — Таварыства беларускай школы (ТБШ). Такое таварыства існавала тут у 30-тыя гады, але было забаронена польскімі ўладамі.

○ ***НЕПАДАЛЁКУ АД ВЁСКІ ЗАПОЛЛЕ ЛІДСКАГА РАЁНА АДКРЫТЫ*** *мемарыяльны знак у гонар Ігната Дамейкі, сусветнавядомага навукоўца XIX ст.*

○ **«БЕЛАРУСКАЯ ПАЛІТРА XX СТАГОДДЗЯ»** — пад такой назвай у менскім Палацы мастацтваў праходзіць выстава, прысвечаная 70-годдзю I Усебеларускай выставы 1925 года.

○ ***ДЛЯ АДНАЎЛЕННЯ ПРАЦЭСУ СКАРАЧЭННЯ БАЯВОЙ ТЭХНІКІ****, якая трапляе пад Дагавор аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, урад Беларусі выдзеліў Міністэрству абароны з рэспубліканскага бюджэту 2,5 мільярда рублёў.*

○ **«КРУГЛЫ СТОЛ» З УДЗЕЛАМ А.ЛУКАШЭНКІ**, прадстаўнікоў палітычных партый, грамадскіх арганізацый, які намячаўся на 17 кастрычніка, перанесены на снежань гэтага года.

○ ***У МАСКВЕ ПРАЙШОЎ ЧАЦВЁРТЫ МІЖНАРОДНЫ КІНАФЕСТЫВАЛЬ СЛАВЯНСКІХ І ПРАВАСЛАЎНЫХ НАРОДАЎ «ЗАЛАТЫ ВІЦЯЗЬ»****. Беларускія кінематаграфісты атрымалі шэсць высокіх узнагарод фестывалю. «Залаты віцязь» кінацэнтра і арганізатараў фестывалю быў прысуджаны прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку, а «Сярэбраны віцязь» — прадстаўніку Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміру Замяталіну. Інфармацыі — за якія фільмы яны атрымалі ўзнагароды — наш друк не даў.*

○ **УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** дзяржаўнаму інфармацыйнаму агенцтву нашай краіны вернута яго старая назва — Беларускае тэлеграфнае агенцтва (БелТА).

○ ***УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ МІНІСТРАМ АБАРОНЫ НАШАЙ КРАІНЫ НАЗНАЧАНЫ ГЕНЕРАЛ-ЛЕЙТЭНАНТ ЛЕАНІД МАЛЬЦАЎ****. Выступаючы апошнім часам некалькі разоў па тэлебачанні, міністр абароны паказаў сваё выдатнае валоданне беларускай мовай — дзяржаўнай мовай нашай краіны.*

# НА IV З'ЕЗДЗЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## «У перашкодах дух расце»

***Сяргей ЗАПРУДСКІ, намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы***

Паколькі час, што прайшоў паміж III і IV нашымі з'ездамі, склаў цэлую эпоху, і сёння ніхто з нас не возьме на сябе смеласці адназначна прадказаць будучы лёс беларускай мовы, то ў сваім выступе я дазволю сабе спыніцца толькі на праблемных пытаннях дзейнасці ТБМ.

На сваім пасяджэнні ў сакавіку 1994 года, прысвечаным арганізацыйна-прапагандысцкай рабоце, канстатаваўшы «нізкую актыўнасць арганізацый Таварыства», Рэспубліканская Рада пастанавіла стварыць адпаведную камісію на чале з вашым пакорным слугой і Яўгенам Цумаравым, а таксама рэкамендавала сябрам нашай арганізацыі асаблівую ўвагу звярнуць на гэтую галіну дзейнасці. З тае пары прайшло паўтара года, аднак ні агітацыйная, ні арганізацыйная работа належным чынам пастаўлены не былі. Гэта горка прызнаць тым больш, што сёлета ў траўні адбыўся рэферэндум. Яго вынікі, калі б мы аказаліся на вышыні якраз у арганізацыйна-асветніцкай сферы, маглі б быць іншымі: як памятаеце, перамога ініцыятараў плебісцыту матэрыялізавалася ў лічбе 54 працэнты. Нас жа практычна магла задаволіць лічба 49. Не такая ўжо і вялікая розніца.

Як адзін са старшыняў арганізацыйна-прапагандысцкай камісіі я цалкам усведамляю сваю персанальную адказнасць за правал рэферэндумнай кампаніі. Я не лічу патрэбным падрабязна расказваць, як мы дзейнічалі ў тыя дні. Ніякія ўчыненыя тады крокі не могуць мяне апраўдаць, тым больш што многае з задуманага не рэалізавана. Я паведамляю аб сваёй адстаўцы з кіраўнічых пасад у Таварыстве. Наастатак хачу падзяліцца з шаноўнай грамадой сваімі развагамі пра ролю і значэнне ў жыцці Таварыства арганізацыйна-прапагандысцкай работы. На жаль, такая гаворка будзе актуальнай нават цяпер, на нашым IV з'ездзе. Выказаныя мною меркаванні не з'яўляюцца агульнай думкай сяброў Сакратарыята ці Рады нашай арганізацыі і грунтуюцца на маім вопыце працы ў кіраўніцтве ТБМ падчас двух з паловай апошніх гадоў.

Калі пасля трэцяга з'езда новаабраная Рэспубліканская Рада сабралася на сваё першае пасяджэнне, то яна перагледзела склад камісій Таварыства, выдаўшы мандат на далейшую працу правапіснай, выдавецкай, тэрміналагічнай і ініцыяваўшы стварэнне новых. Пазней, калі ўпершыню праводзіў сваё пасяджэнне Сакратарыят Рады, выявілася, што мы не аднавілі арганізацыйна-прапагандысцкую камісію. Адсутнасць у Таварыстве такой структуры выклікала пытанні, аднак не ўсе лічылі, што яна патрэбна. У выніку, праўда, камісія ўсё ж была адноўлена, і цяпер, прынамсі, ёсць з каго спытаць.

Увосень 1993 года Сакратарыят Рады правёў пасяджэнне сумесна з Менскай гарадской арганізацыяй. Абмеркаванне, якое адбылося на гэтай сустрэчы, я вымушаны назваць парадаксальным. Шасцёра з адзінаццаці выступоўцаў фактычна выказалі нязгоду з далікатнай рэкамендацыяй аргсакратара і некаторых сяброў Сакратарыята палепшыць арганізацыйную працу, ажывіць дзейнасць суполак. Я працытую некалькі выказванняў: «Не ў суполках галоўны сэнс», «мяне насцярожвае прапанова весці пратаколы», «не трэба ўпадаць у заарганізаванасць», «не веру ні ў якую актыўнасць мас — я веру ў ціск на ўладу», «без уладаў мы нічога не зробім», «адраджэнне мовы павінна ажыццяўляцца толькі на дзяржаўнай аснове» (я звяртаю ўвагу на слова «толькі») і да т.п. Вось жа і на пасяджэнні Рады, адмыслова прысвечаным арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці, давялося пачуць, што «мы зацыкліліся на арганізацыйнай працы» (г. зн. зашмат пра яе гаворым). Няўжо ў гэтай галіне ў нас усё было цудоўна? І што гэта за арганізацыя, якая не хоча займацца арганізацыйнай работай, павялічваць колькасць сваіх супольнікаў? Напярэдадні пятых угодкаў прыняцця Закона аб мовах я звяртаўся да некаторых сяброў Рады з просьбай напісаць артыкул у газету, аднак вынікі былі, можна сказаць, нулявыя. Аператыўна адгукнуўся толькі Вячаслаў Рагойша, які ў кіраўніцтва ТБМ не ўваходзіць. Верагодна, няпоспеху такіх захадаў спрыяў мой невысокі аўтарытэт. Але я ўбачыў і іншае: мы не надаём належнай увагі прапагандзе, можа, нават пагарджаем ёю.

На II з'ездзе Таварыства, які адбыўся ў 1991 годзе, у дакладзе старшыні прыярытэты дзейнасці нашай арганізацыі былі акрэслены наступным чынам (пераказваю ў скароце, але

*(Заканчэнне на с.2.)*

# ПАСТАНОВА

### *IV з'езда Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

Святыня народа, нацыянальная мова беларусаў, ізноў апынулася ў небяспецы. Сталася гэта ў выніку наступу антыдэмакратычных і антынародных сіл на нацыянальныя школы і ўстановы культуры, на іншыя структуры, у якіх беларуская мова пачала набываць статус сапраўды дзяржаўнай.

Вынікі сумнеўнага з пункту гледжання канстытуцыйнасці рэферэндуму выкарыстоўваюцца не толькі для апраўдання выцяснення з грамадска-дзяржаўнага ўжытку беларускай мовы, для апраўдання парушэнняў Канстытуцыі і моўна-культурнага заканадаўства краіны, але і для дыскрэдытацыі самой незалежнай беларускай дзяржавы. У Беларусі парушаюцца міжнародныя нарматыўныя акты, якія гарантуюць нацыянальнай мове захаванне і дзяржаўную падтрымку.

Антыбеларускія сілы бессаромна выкарыстоўваюць зманапалізаваныя сродкі масавай інфармацыі. Навязваючы ідэю «раўнапраўя» беларускай і рускай моў, яны праводзяць разбуральную палітыку выцяснення беларускай мовы з ужытку. Пры гэтым спекулююць тым, што значная частка грамадзян Беларусі не маглі за лічаныя гады стаць актыўнымі носьбітамі і абаронцамі беларускай мовы.

Беларускае грамадства апынулася ў стане сацыяльна-палітычнага здранцвення і пакуль не знаходзіць дастаткова сілы, каб абараніць нацыянальную годнасць і зберагчы свае духоўныя скарбы. У такіх умовах не толькі беларускай мове і культуры, але мовам і культурам іншых нацыянальных групаў насельніцтва краіны наканавана не развівацца, а няўхільна дэградаваць.

IV з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртаецца да ўсіх грамадзян краіны, усіх нацыянальных згуртаванняў, палітычных сіл, грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў, органаў дзяржаўнай улады і кіравання з заклікам аб'яднацца і зрабіць усенароднай справай абарону беларускай мовы. І дзеля гэтага

ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Асудзіць дзеянні прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і кіраўніцтва шэрагу дзяржаўных органаў і ўстаноў, скіраваныя на згортванне дзяржаўных праграм развіцця беларускай мовы, нацыянальнай сістэмы адукацыі, культуры і інфармацыі, а ўрэшце — на страту незалежнасці краіны.

2. Звярнуцца да Вярхоўнага Савета, Канстытуцыйнага Суда і Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь з просьбай даваць адпор неправавым спробам прынізіць грамадска-дзяржаўны статус беларускай мовы.

3. Звярнуцца да сусветнай грамадскасці, да роднасных Таварыству міжнародных арганізацый і замежных нацыянальна-культурных згуртаванняў з просьбай аб маральнай падтрымцы і супрацоўніцтве ў адстойванні перспектывы беларускай мовы як культурнага здабытку ўсяго чалавецтва.

4. Даручыць Рэспубліканскай Радзе, рэгіянальным кіраўнічым органам Таварыства наладзіць супрацоўніцтва з усімі грамадскімі, палітычнымі і дзяржаўнымі структурамі, якія падзяляюць клопат пра зберажэнне беларускай мовы і пашырэнне яе як дзяржаўнай у незалежнай краіне.

5. Галоўную ўвагу Таварыства скіраваць на асветніцкую і арганізацыйную працу. Для гэтага:

— рэкамендаваць Рэспубліканскай Радзе, рэгіянальным кіраўнічым органам Таварыства ўсяляк падтрымліваць пашырэнне беларускамоўнай інфармацыйнай прасторы і праяўляць уласную ініцыятыву ў стварэнні мясцовых беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі;

— падтрымліваць стварэнне і фармаванне беларускамоўнай грамадзянскай супольнасці; спрыяць утварэнню беларускамоўных культурных, маладзёжных, дзіцячых згуртаванняў і аб'яднанняў па інтарэсах.

6. Абавязаць сяброў і арганізацыі Таварыства супольна з шырокай грамадскасцю прыкласці ўсе сілы дзеля таго, каб захаваць і памножыць колькасць беларускамоўных адукацыйных устаноў усіх тыпаў. Ствараць для іх належныя ўмовы.

7. Даручыць Рэспубліканскай Радзе ТБМ і рэдакцыі газеты «Наша слова» вырашыць пытанне арганізацыйна-тэхнічнага і фінансавага забеспячэння дзейнасці друкаванага органа Таварыства.

6 кастрычніка 1995 г.
г. Менск.

# НА IV З'ЕЗДЗЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## «У перашкодах дух расце»

*(Заканчэнне. Пачатак на с.2.)*

блізка да тэксту): 1. Усімі магчымымі спосабамі дабівацца ажыццяўлення Закона аб мовах; 2. Патрабаваць ад службоўцаў хутчэйшага авалодання беларускай моваю; 3. Асабліва настойліва змагацца за беларусізацыю школ; 4. Трэба зрабіць нашым клопатам — клопат пра чысціню мовы; 5. Трэба вярнуць нашай роднай мове яе сапраўднае беларускае аблічча; 6. Паконачыць з палітызацыяй у нашай тапаніміцы і антрапаніміі; 7. Трэба павесці вялікую выхаваўчую работу сярод тых, хто перакананы, што шанаваць беларускую мову — гэта нацыяналізм і адсталасць.

Як бачым, тры першыя названыя пункты непасрэдна звязаны з выкананнем Закона аб мовах. Тры наступныя — гэта «ўнутрымоўныя» заданні лінгвістам, навукоўцам. І толькі апошні, сёмы, быў звернуты непасрэдна да прапаганды.

Мне цяжка меркаваць, наколькі абгрунтаванай была вызначаная на II з'ездзе іерархія каштоўнасцей у нашай працы. Верагодна, у першы час пасля прыняцця Закона аб мовах наша актыўнае «хаджэнне па чыноўніках» было матываванае. Трэба было яму прадэманстраваць, што ёсць людзі, зацікаўленыя ў адраджэнні мовы, падказаць, дапамагчы, павучыць. Аднак паступова, мне здаецца, усё больш увідочнівалася, што такія метады не заўсёды даюць вынікі і што гэтыя вынікі нельга ацэньваць адназначна. Здаецца, сёй-той з нас занадта палюбіў стаяць каля чыноўніка з дубцом. Ці ж можна закласці трывалыя перакананні выключна з дапамогай такога «інструмента»?

К III з'езду Таварыства гаворка пра арганізацыйна-прапагандысцкія праблемы яўна наспела. Як сведчыць «Наша слова», на пасяджэнні Рады ў канцы 1992 года вельмі крытычна выступіў Вінцук Вячорка. Ён прапанаваў абмеркаваць на чарговым форуме метады працы і формы кіравання рэспубліканскага ТБМ.

У студзені 1993 года, непасрэдна перад III з'ездам на нарадзе па пытаннях лепшай арганізацыі работы ТБМ Алег Трусаў сказаў, што Таварыства «трапіла ў стан крызісу... калі не будзем перабудоўваць працу, мы загінем». Аднак на абмеркаванне найвышэйшага кіраўнічага органа ТБМ былі вынесены ўсё тыя ж праблемы дачыненняў з органамі ўлады дзеля актывізацыі ажыццяўлення Закона аб мовах, а таксама пытанні ўдасканальвання правапісу. Адпаведна, на з'ездзе мала хто гаварыў пра праблемы арганізацыйнага росту Таварыства і асветніцка-прапагандысцкую актыўнасць. З'езд прыняў пастанову з сямі пунктаў, і — вось парадокс! — я павінен канстатаваць, што мы яе паспяхова выканалі. Мы палічылі антынароднымі тыя дзеянні Вярхоўнага Савета, якія прыніжалі ролю беларускай мовы. Мы асудзілі дзеянні тых партый, якія імкнуліся да ўвядзення дзяржаўнага двухмоўя. Мы заклікалі ўсіх грамадзян аберагаць і памнажаць моўныя скарбы, выказалі грамадзянскі пратэст (чацвёрты пункт), звярнуліся ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета з прапановай (пяты пункт) і г. д. Сімптаматычна, што ўсе пункты нашай пастановы, прынятай на III з'ездзе, амаль ніяк не абавязвалі нас, затое былі скіраваны да некага іншага. У прэамбуле да пастановы мы запісалі, што «дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы, законы аб мовах, адукацыі, культуры, якія з'яўляюцца гарантам духоўнага абнаўлення беларускага народа, не сталі абавязковымі для ўсіх дзяржаўных службоўцаў, кіраўнікоў вытворчых і грамадскіх структур». Але ж калі дзяржаўная праграма і законы не сталі абавязковымі для чыноўнікаў і кіраўнікоў, то, значыць, ніякія яны не гаранты. Значыць, мы жылі ў рэжыме прававога нігілізму і спадзявацца на законы нам не выпадала. Адпаведна, мы павінны былі парупіцца, каб такімі гарантамі — хоць часткова(!) — стала нешта іншае ці нехта іншы.

Тут я хачу прывесці словы нашага нацыянальнага прарока Янкі Купалы, напісаныя ім у 1919 годзе: «Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця — гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі — павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі для сябе.

Не, браты, гэтакім ладам мы далёка не заедзем. Час праявіць нам і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакалення! Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць нас тады: «Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?»

К такому запытанню трэба нам быць гатовымі. Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ. А які ж мы дадзім адказ, калі мы цяпер на другіх гэты адказ ускладаем?

Дык больш самачыннасці, больш смеласці к будаванню свайго новага незалежнага жыцця».

На жаль, мы аказаліся дакладным адбіткам нашага грамадства, якое, падманутае ў час рэферэндуму антыдзяржаўнай прапагандай, таксама паспадзявалася на некага, вырашыла, што Расія лепш дапаможа Беларусі, чым сама Беларусь. Дык ці маем мы ў такім разе права наракаць толькі на аб'ектыўныя акалічнасці і цалкам забывацца на прычыны суб'ектыўныя? Няўжо, папраўдзе, ад нас нічога не залежала?

Годзе плакацца! Давайце ўсвядомім, што ратунак — у нас саміх, у людзях, якія прысутнічаюць у гэтай зале. Ад нас многае залежыць. Толькі паверыўшы ў гэта, мы — пераможам.

Колькі слоў пра месца нашага Таварыства ў грамадстве — якое яно ёсць і якім магло б быць.

Мы — арганізацыя не палітычная, а культурна-асветніцкая. Але з увагі на тое, што моўная праблема так ці інакш адлюстравана ў праграмах розных палітычных партый, непазбежна атрымліваецца, што наша дзейнасць набывае палітычную афарбоўку. І тут, здавалася б, логіка дыктуе нам адназначна салідарызавацца з аднымі палітычнымі арганізацыямі і «процістаяць» другім. Элементы такога падыходу ў пэўнай ступені прасочваюцца ў нашай папярэдняй дзейнасці. Мне здаецца, што ў абсалютызаваным выглядзе гэткі погляд — няплённы.

Ідэалогія любой партыі, нават самай уплывовай, выяўляе памкненні не ўсяго грамадства, а толькі яго часткі. Зрэшты, само слова «партыя» паходзіць з лаціны, дзе яно значыць «частка». Між тым, беларуская мова ёсць каштоўнасць усеагульная, не «частковая», яна належыць не якімсьці канкрэтным аб'яднанням ці рухам, а грамадству ў цэлым. У сувязі з гэтым мы не павінны празмерна атаясамлівацца з нейкай канкрэтнай партыяй ці ідэалогіяй, павінны дыстанцыявацца ад іх. «У справе нацыянальнага адраджэння, — сцвярджаў адзін з бацькоў нашай беларускай веры Язэп Лёсік у артыкуле «Народ і інтэлігенцыя», — патрэбна разуменне цэлага, а не частковага. Тут трэба ахапіць тое, што калісь будзе, што свеціцца ў далёкай будучыні, а не дыміцца ў сучаснасці... Сцісла задавальненне патрэб ці інтарэсу часткі, таго ці іншага стану нацыі, прыводзіць да катастрофы». Мне здаецца, што гэтага належным чынам не ўсведамлялі ні мы, ні лідэры беларускага палітычнага руху, якія меркавалі, што ў іхніх партыях увасабляюцца ўсе галоўныя памкненні беларускага народа.

Для нас, сяброў ТБМ, мова ёсць мэта, а для палітычных партый мова — сродак. Для нас мова вышэй за ўсё, а для іх палітычная барацьба вышэй за ўсё. У гэтай барацьбе мова можа набываць дапаможнае, інструментальнае значэнне. Мне здаецца, што ў сваёй дзейнасці Беларускі Народны Фронт аж да гэтае пары трымаецца «тарашкевіцы» пераважна таму, што гэта дазваляе яму кампраметаваць сваіх палітычных апанентаў. Як вядома, «наркомаўка» паводле тэарэтыкаў Фронту — гэта выключна «кепскі», «сталінскі» правапіс. Як палітычная арганізацыя Фронт у дадзеным выпадку не здольны засяроддзіцца на агульнанацыянальных задачах, падняцца вышэй за цэхавыя, карпаратыўныя інтарэсы і ўбачыць шкодныя наступствы сваёй, скіраванай на ўмацаванне правапіснага расколу, дзейнасці. З гэтага выпадку я прыгадаю — праўда, цяпер у станоўчым кантэксце — дзейнасць лідэра славацкага нацыянальнага руху сярэдзіны XIX стагоддзя Людэвіта Штура. Ведама, што да пачатку 40-х гадоў славакі не мелі агульнай літаратурнай мовы: пратэстанты карысталіся традыцыйнай чэшскай пісьмовай моваю («біблічцінай»), а каталікі — славацкай «бернолакаўшчынай» (назва дадзена паводле імя стваральніка гэтай мовы Антана Бернолака). Належачы да адной з названых рэлігійных плыняў, Штур, тым не менш, здолеў такім чынам рэфармаваць славацкую мову, што яе прынялі і пратэстанты, і каталікі. Раскол нацыянальнага руху паводле літаратурна-моўнай прыкметы Штур ацэньваў, як «вялікае нішчасце», як такое ліха, якое мела для славакаў «самыя кепскія вынікі». «Штураўшчына» адыграла велізарную ролю ў барацьбе славакаў за кансалідацыю.

Выбар у пачатку XIX стагоддзя ў якасці галоўнага пры фармаванні новай грэцкай мовы архаічнага пісьмовага варыянту адзін з сучасных грэцкіх гісторыкаў ацаніў, як «трагічную памылку, якая затармазіла дэмакратычнае развіццё новай грэцкай дзяржавы». Рэч у тым, што гэты варыянт («кафарэвусу») вельмі цяжка было ўкараніць — нягледзячы на тое, што ён ужываўся, напрыклад, у літургіі і што супраць яго на тую пару амаль ніхто не выступаў. Архаічны варыянт быў афіцыйнай моваю тых органаў кіравання, якія ўзніклі ў ходзе антыасманскай вызваленчай барацьбы. Але і гэтая акалічнасць не дазволіла яму перамагчы ў канкурэнтнай барацьбе з «дымоцікай» — моваю, заснаванай на народнай аснове. Урэшце, пераканаўшыся ў неажыццяўляльнасці мэтаў грэцкіх архаістаў, у 70-я гады нашага стагоддзя ўрад правёў радыкальную моўную рэформу, зрабіўшы «дымоціку» адзінай моваю школы і афіцыйных дакументаў. Дзеля ўсведамлення неабходнасці такога кроку грэкам спатрэбілася паўтара стагоддзя.

Але ж хіба ў нас ад самага пачатку не было зразумела, што сацыяльная база «тарашкевіцы» завузкая, што грамадства не гатовае яе прыняць? Няўжо ў нас было ў запасе сто пяцьдзесят гадоў?

«Мы перш за ўсё беларусы, і ўжо потым сацыялісты ці несацыялісты, дэмакраты ці недэмакраты, кансерватысты ці неканерватысты», — сцвярджаў у цытаваным ужо артыкуле Язэп Лёсік. Пра неабходнасць супрацоўніцтва з усімі, хто адмовіўся ад палітыкі ліквідацыі беларусаў як нацыі, — «з дэмакратамі і беларускімі камуністамі, з каралямі і вялікімі князямі, з «левымі» радыкаламі і правымі кансерватарамі», — пісаў неяк наш філосаф Уладзімір Конан, і гэтую думку падтрымаў, выступаючы ў Маладзечне на канферэнцыі па нацыянальнай самасвядомасці, беларускі эмігрант з Амерыкі Янка Запруднік, чалавек, які ладную частку свайго жыцця аддаў барацьбе з камунізмам. Я мяркую, што ў нашым Таварыстве не месца для звядзення палітычных разрахункаў. Збіраючыся на пасяджэнні, сябры ТБМ павінны пакідаць за дзвярыма свае палітычныя прыхільнасці. Актывісты Таварыства з ліку бээнэфаўцаў на месцах павінны настойліва шукаць нашых аднадумцаў у асяроддзі камуністаў. Тое ж павінны рабіць і нашы сябры камуністычнай арыентацыі. Гэта зрабіць вельмі цяжка. Але зрабіць гэта — трэба. Прынамсі, да гэтага трэба імкнуцца. У часе папярэдніх абмеркаванняў некаторыя мае калегі называлі такі падыход правільным па сутнасці, але завельмі тэарэтычным. Але чаго вартая практыка, якая пагарджае тэорыяй, ігнаруе яе? Хіба падзеі апошняга часу нічому нас не навучылі?

Наш з'езд павінен абазначыць рашучы паварот у метадах нашай дзейнасці. Настала пара ад гучных заяў перайсці да канкрэтных спраў. Мы павінны стаць сапраўднай арганізацыяй. Трэба добра разважыць, якія спосабы дзейнасці могуць быць найбольш эфектыўныя. Магчымасці для працы ў нас цяпер незмерна большыя, чым гэта было якіх-небудзь 10 гадоў таму назад. Асабіста я спадзяюся, што на выклік, кінуты беларускаму народу рэферэндумам, беларускі народ адкажа нараджэннем сапраўды нацыянальнай інтэлігенцыі. «У перашкодах дух расце», — пісаў Уладзімір Дубоўка. Пажадаю нам усім захаваць цвёрдасць духу і стакрось умацаваць яго. Жадаю нам усім таксама карпатлівай штодзённай працы. Менавіта ад гэтага самым непасрэдным чынам будзе цяпер залежаць, з якімі інтанацыямі будзем мы прамаўляць праз пяць ці дзесяць гадоў наш святы лозунг «Жыве Беларусь!»

## Аб'яднаныя, выжывем і пераможам

***Вінцук ВЯЧОРКА**, сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ*

На фоне таго, што адбываецца ў краіне, нашыя нутраныя арганізацыйныя турботы — не праблема, а драбяза. Няма чаго цяпер сябе бічаваць, трэба думаць пра будучыню. Рэжым гуляе ў бяспройгрышныя гульні, прафесійна маніпулюючы падсвядомасцю ўзгадаванага таталітарызмам чалавека. Дзеля цынічных мэт нішчацца вечныя каштоўнасці — парасткі нацыянальнай і грамадскай свядомасці, мова, культура, мараль. Нашая асветніцкая дзейнасць, нашая прапаганда, угрунтаваная на стваральніцтве, аб'ектыўна не можа дзейсна працістаяць гульні на нізкіх інстынктах. Таму не трэба ілюзій: радыкальна змяніць вынікі рэферэндуму па мове было немагчыма.

Шаноўны Сяргей Запрудскі раптам абвясціў прычынамі нашых няўдач «палітызацыю» Таварыства і... «тарашкевіцу». Што да «тарашкевіцы», дык мне здаецца, цяпер не да гэтай праблемы. Яна ўсё ж маргінальная, спецыяльная, і яшчэ будзе час да яе вярнуцца. А наконт «палітызацыі» мушу спыніцца больш дэталёва, тым больш што гэтая праблема звязана з цяперашнім і будучым кадравым абліччам ТБМ.

ТБМ — па сутнасці сваёй паза- і надпалітычная грамадская арганізацыя. Бяда ў тым, што цяперашняя ўлада пачала трактаваць беларускую мову як палітычны чыннік, які ёй, уладзе, перашкаджае. У выніку, адстойваючы нашую мову, мы — нават мімаволі — займаем палітычную пазіцыю, і няма чаго рабіць выгляд, што гэта не так. Афіцыйная ж прапаганда пляжыць і бэсціць усю беларушчыну цалкам, беларушчыну як такую, незалежна ад палітычных сімпатый, палітычных антыпатый ці палітычнай абыякавасці ейных носьбітаў. Мы ўсе і сапраўды pars — частка, беларускамоўная частка ўсё яшчэ не адроджанага, усё яшчэ соннага грамадства.

Марна намагацца аддзяліць у масавай свядомасці ТБМ ад незалежніцкіх палітычных сіл. Масавыя стэрэатыпы — рэч вельмі жывучая. Зрэшты, нашто аддзяляць? Рана ці позна нацыянальна-адраджэнская ідэя запануе ў свядомасці нашых людзей як натуральная альтэрнатыва цяперашняй антыбеларускай і папулісцкай ідэі. А сёння культурныя, грамадскія, прафесійныя, палітычныя арганізацыі, якія ставяць сваёю мэтай абарону мовы — мусяць быць разам. Я не адчуваю ніякай раздвоенасці асобы з-за таго, што належу і да ТБМ, і да Народнага Фронту; наадварот, набываю больш магчымасцяў для дасягнення нашае супольнае мэты (бо, як добра вядома, і для Народнага Фронту мова — не сродак, а адна з падставовых мэт).

Калі змянілася афіцыйная палітыка, выявілася, што дасягненні ў адраджэнні мовы маюць розную трываласць. Вялікая частка чынавенства павярнулася на 180 градусаў (тым больш вартыя падтрымкі тыя кіраўнікі адукацыйных установаў, што не паддаліся кан'юнктурнаму ціску русіфікацыі), і тут жа адбыўся адкат — у адукацыі, у справаводстве, у аўдыёвізуальнай інфармацыі. Згарнулася дзейнасць Таварыства там, дзе яго стварылі не грамадскія актывісты «знізу», а чыноўнікі «зверху». Але ж багата дзе актыў ТБМ і актыў незалежніцкіх палітычных арганізацый — амаль тыя самыя людзі, і дзякуючы ім Таварыства жыве. Дык што ж, цяпер пачнём «дэпалітызацыю»? Павыганяем з ТБМ франтоўцаў, бо «дыскрэдытуюць» Таварыства? Перад кім?

Нам трэба вызначыць наш арганізацыйны тып на перспектыву: масавай ці кадравай арганізацыяй стане ТБМ? Мне здаецца, да масавасці ў цяперашніх умовах яшчэ далёка. Як кажуць маладзейшыя, «халява» скончылася: ад дзяржавы трэба дамагацца належнага, але разлічваць на яе падтрымку больш нельга. Дай Бог утрымаць цяперашнія і займець новыя надзейныя і некан'юнктурныя пазіцыі, прычым у кожным раёне краіны. Выдатна было б захаваць у складзе Таварыства кадры эліты. Масавай наша арганізацыя можа быць для моладзі, але пры ўмове яе прывабнасці для моладзі і пры наяўнасці сродкаў.

А галоўнаю мэтаю Таварыства на гэтым складаным кругабегу гісторыі я б вызначыў наступнае: падтрымліваць і развіваць паўнацэнную, разнастайную, жыццядольную, урэшце, прэстыжную беларускамоўную грамадзянскую супольнасць. Гэта значыць — скарыстоўваючы наш статус і структуры, дзейна падтрымліваць усялякія беларускамоўныя грамадска-культурныя, адукацыйныя, маладзёжныя і дзіцячыя, выдавецкія ініцыятывы. Стварыць самім і падтрымліваць стварэнне незалежнай беларускамоўнай прэсы. Літаральна ад заўтра пачаць рэгістрацыю сваіх рэгіянальных газет. А клопатам будучага кіраўніцтва Таварыства павінна стаць метадычная дапамога ў пошуку спонсараў і здабыцці грантаў на такую справу.

Раней было прасцей. Дасведчаныя ў суплётах адміністрацыйна-загаднага рэжыму аўтарытэтныя людзі адчынялі патрэбныя дзверы і «выбівалі» фінансаванне, памяшканне і г.д. Але цяпер трэба мяняць modus vivendi. Дзейнічалі ж без ніякай дзяржаўнай падтрымкі да рэвалюцыі беларускія арганізацыі, выдавецтвы, тэатры, перыёдыкі! Умеюць жа выжываць культурніцкія арганізацыі ў еўрапейскіх, у тым ліку посттаталітарных, краінах! Змушаныя будзем навучыцца і мы. Трэба, каб у выканаўчых структурах ТБМ апынулася моладзь, якая разбіраецца ў міжнародных фундацыях і арганізацыях, ведае, як напісаць заяўку на грант, лёгкая на пад'ём для выездаў у раёны.

Нам патрэбная служба праўнай абароны беларускамоўных — дарослых, дзяцей. Наогул Таварыства мусіць знайсці формы забеспячэння маральнага камфорту беларускамоўным, асабліва тым, хто літаральна цяпер зрабіў свой моўны выбар і загаварыў па-беларуску 24 гадзіны ў суткі. Тут, можа, было б дарэчы мець своеасаблівую нумараваную кніжачку-прысягу для «ўсвядомленых»: хай беларускамоўны падлетак пачуваецца адметным! Колькі слоў пра ініцыятыву Таварыства беларускае школы. Я перакананы, што сэнс ствараць такое таварыства ёсць толькі ў тым выпадку, калі ў яго ўвойдзе дастаткова шмат новых людзей — абураных парушэннямі сваіх правоў бацькоў, абураных бязглуздымі паваротамі ў адукацыйнай палітыцы настаўнікаў і педагагічнага чынавенства. Мяркуючы па некаторых раённых сталіцах, гэта магчыма. Урэшце, нельга паддавацца песімістычным настроям. Такога адкату, які быў у 60-я, калі цэлымі школамі пераходзілі на расійскую — не будзе. Свет змяніўся, вырасла новае пакаленне. Абнавіўшыся, выжывем і пераможам.

# НА IV З'ЕЗДЗЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## Узаемадзейнічаць з усімі, хто за незалежнасць Беларусі

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ, народны дэпутат Вярхоўнага Савета РБ, доктар тэхнічных навук, прафесар, член-карэспандэнт АН Беларусі*

Я вас уважліва слухаў і, прабачце, некаторыя з вашых падыходаў — гэта закліканні і няўлік рэалій, якія ёсць фактычна ў нас. Коратка спынюся на тым, што, на маю думку, не ўлічана з пункту гледжання ТБМ. Першае. Вы чамусьці думаеце, што можна цудоўна працаваць толькі ў беларускамоўных школах і класах. Але нацыянальную свядомасць можна выхоўваць і ў рускамоўнай школе, і ў польскамоўнай школе, і ў любой іншай. Калі нясеш сапраўдную культуру, то яе можна данесці і на рускай мове, і на польскай. Я ў гэтым пераканаўся на ўласным прыкладзе. Мой сын стаў нацыянальна свядомым беларусам, займаючыся ў рускай школе з англійскім ухілам дзякуючы рускамоўным настаўнікам, асабліва дзякуючы настаўніку гісторыі. І я ганаруся тым, што ў нас ёсць такія настаўнікі. Другое. Улічыце нашы цяжкасці. Пераходны перыяд, пра які гавораць, ва ўсіх посткамуністычных дзяржавах уключае два працэсы — мяняюцца палітычная аснова і эканамічная аснова. У нас жа адбываюцца тры працэсы: наша дзяржава не аднаўляецца, прыкладам, як Латвія ці Эстонія, а ствараецца занава на старой аснове — на аснове былой камуністычнай імперыі. Бо на гістарычнай аснове беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага — яе адрадзіць немагчыма. Дык вось той стары грунт, на якім будуецца наша дзяржава, вельмі цяжка здае свае пазіцыі. Сёння станаўленне нацыянальнай свядомасці пярэчыць інтарэсам тых людзей, якія застаюцца пры ўладзе. Дарэчы, некаторыя з іх таленавітыя і нядрэнныя людзі, але калі да іх так зняважліва ставіцца, то яны проста актыўна супрацьдзейнічаюць. Прабачце, я не падзяляю палітычнай пазіцыі дэпутата Шчукіна, які тут перад намі выступіў. Я не падзяляю пазіцыі камуністычнай партыі, але я лічу, што рабіць заўвагі ў адрас гэтага чалавека, які, па майму ўнутранаму перакананню, шукае падыходы для таго, каб спрыяць станаўленню беларускай мовы, — некарэктна і неэтычна. Перш за ўсё мы павінны выбраць прыярытэт. І калі спрыяе камуністычная партыя станаўленню беларускай мовы, давайце будзем узаемадзейнічаць з ёю. Мы можам па іншых падыходах з ёю разыходзіцца, але не трэба адкідваць тых, хто можа нам дапамагчы. Я сам упершыню ў жыцці быў абраны дэлегатам трыццаць першага з'езда кампартыі Беларусі. Я гаварыў тады так: «Давайце створым нашу Беларускую камуністычную партыю», але 53 працэнты дэлегатаў выказаліся супраць. Але ж 47 працэнтаў было свядомых, патрыятычна зарыентаваных дэлегатаў, якія хацелі стварыць Беларускую камуністычную партыю. Гэты прыклад, можа, крайні, але паўтараю: не заўсёды першаснае значэнне мае мова навучання, але заўсёды — сутнасць навучання.

У нас аднначасова з двума прыгаданымі працэсамі пераход да новага грамадскага ладу суправаджаецца тым, што, напрыклад, у ЗША і многіх краінах Еўропы ў асноўным завяршылася сто і болей гадоў назад. Усе еўрапейскія дзяржавы сталі на ногі дзякуючы нацыянальнай самасвядомасці. У нас жа дамешваюцца правы чалавека — у час, калі нацыянальная свядомасць прыгнечана імперскімі амбіцыямі суседзяў і міграцыйнымі працэсамі. Паралельна паўстае пытанне аб правах людзей, якія нарадзіліся на Беларусі і не ведалі, што яны нарадзіліся менавіта на Беларусі, не ведалі, што мы мелі тут калісь беларускую дзяржаву. Яны не вельмі вінаватыя ў тым, што сёння адстойваюць сваё рускамоўе. Трэба давесці да іх свядомасці, што яны жывуць у цудоўнай краіне сярод цудоўнага народа з яго даўнінай і сваімі гістарычнымі постацямі. Паглядзіце, якія подзвігі здзяйснялі беларусы падчас Вялікай Айчыннай вайны. Дык вось, калі асветніцкая праца стане адной з частак работы ТБМ, калі гэта арганізацыя будзе весці работу і з рускамоўным насельніцтвам дзеля адраджэння беларускай мовы, тады мы многага дасягнем. І апошняе. Не адпускайце Ніла Сымонавіча Гілевіча з пасады старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны.

## ЗВАРОТ *IV з'езда Таварыства беларускай мовы да выбаршчыкаў*

Дарагія суайчыннікі!

Прайшло ўсяго некалькі месяцаў пасля вядомага рэферэндуму, але ўжо відаць, як жорстка ашукалі наш народ.

Наша жыццё не стала лепшым. І павагі да нас у свеце не пабольшала. Але затое панішчаны сотні беларускіх школ, насуперак волі бацькоў, гвалтам і падманам пераводзяцца на рускую мову навучання пачатковыя і сярэднія школьныя класы; толькі пачаўшы пераходзіць да нармальных, праўдзівых праграм і падручнікаў па роднай гісторыі і літаратуры, нашы навучальныя ўстановы вымушаны вяртацца назад, да спарахнелых і хлуслівых догмаў. Найвышэйшая ўлада адкрыта заяўляе, што беларусы не маюць сваёй гісторыі, што беларусы не здольныя жыць сваім розумам, што наша мова — «непаўнацэнная». Прагаласаваўшы на рэферэндуме за «раўнапраўны» статус беларускай і рускай моваў, людзі фактычна дазволілі ўладам адкрыта выціскаць нашу родную мову з тых нешматлікіх сфераў, дзе яна паспела замацавацца, — са школы, ВНУ, сродкаў масавай інфармацыі, дзяржаўнага справаводства. Цяперашнія ўлады Беларусі далі магчымасць працвітаць чарнасоценнай ідэі аднаўлення Расійскай імперыі, у якой няма месца незалежнай Беларусі, нашай мове, культуры, нашай будучыні.

Мы заклікаем усіх, каму баліць душа за тое, што робіцца ў краіне: будзьце ўважлівыя на выбарах! Галасуйце за тых кандыдатаў, якія на справе бароняць незалежнасць нашай краіны, а значыць, адстойваюць будучыню нашых дзяцей. Галасуйце за тых, хто шануе родную мову і здольны спыніць цяперашні адкрыты здзек з беларушчыны. Галасуйце за патрыётаў Беларусі!

## Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, абраная на IV з'ездзе ТБМ

Адамчык Вячаслаў Уладзіміравіч — Менск
Аксёнчык Ніна Канстанцінаўна — Мазыр
Арлоў Валянцін Мікалаевіч — Віцебск
Бароўскі Анатоль Мікалаевіч — Гомель
Башлакова Валянціна Аляксееўна — Гомель
Булавацкі Міхась Пятровіч — Магілёў
Бураўкін Генадзь Мікалаевіч — Менск
Бутэвіч Анатоль Іванавіч — Менск
Вабішчэвіч Віктар Васільевіч — Столін
Вадап'ян Святлана Іванаўна — Круглае
Вільтоўскі Васіль Антонавіч — Менск
Вячорка Вінцук Рыгоравіч — Менск
Гарэлікава Тамара Пятроўна — Полацк
Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч — Менск
Гілевіч Ніл Сымонавіч — Менск
Глушко Аляксей — Менск
Грыцкевіч Анатоль Пятровіч — Менск
Жарнасек Ірына Францаўна — Наваполацк
Запрудскі Сяргей Мікалаевіч — Менск
Зуёнак Васіль Васільевіч — Менск
Казловіч Андрэй Васільевіч — Кобрынскі раён
Костка Валерый Іванавіч — Маладзечна
Краўчанка Пётр Кузьміч — Менск
Кузьміч Вольга Аляксандраўна — Менск
Лыч Леанід Міхайлавіч — Менск
Марціноўскі Пётр Мікалаевіч — Зэльва
Мацюкевіч Марыя Сцяпанаўна — Салігорск
Мельнік Міхась Іванавіч — Ліда
Падлужны Аляксандр Іосіфавіч — Менск
Пазьняк Зянон Станіслававіч — Менск
Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч — Гродна
Раманцэвіч Валянціна Карлаўна — Менск
Савіцкі Мікалай Іванавіч — Менск
Садоўскі Пётр Вікенцьевіч — Менск
Санько Зміцер Хвёдаравіч — Менск
Стапановіч Язэп Міхайлавіч — Менск
Суднік Станіслаў Вацлававіч — Гродзенская вобласць
Сырыца Віктар Антонавіч — Баранавічы
Сцяцко Павел Уладзіміравіч — Гродна
Танана Усевалад Міхайлавіч — Менск
Трусаў Алег Анатольевіч — Менск
Хадыка Юрый Віктаравіч — Менск
Цумараў Яўген Аляксандравіч — Менск
Цыхун Генадзь Апанасавіч — Менск
Шастаковіч Анатоль Васільевіч — Менск
Шлома Людміла Іосіфаўна — Менск
Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч — Менск
Ялугін Эрнэст Васільевіч — Менск
Яцкевіч Сяргей Анатольевіч — Брэст

## Рэвізійная камісія

Лавіцкі Мікола Емяльянавіч (старшыня)
Багданкевіч Святлана Мікалаеўна
Русаў Пётр Аляксандравіч
Скамарох Сяргей Мікалаевіч
Чэчат Аляксандр Віктаравіч

***Матэрыялы IV з'езда падрыхтавала да друку Ірына Крэнь.***

## «Спыніць

Гэты лозунг IV з'езда Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны стаў лейтматывам амаль што ні кожнага выступлення. Нават камуністы Беларусі ў асобе свайго прадстаўніка заступіліся на з'ездзе за мову і культуру карэннай нацыі, не кажучы ўжо пра Старшыню Вярхоўнага Савета РБ Мечыслава Грыба, які сказаў такія вельмі важкія словы: «Ёсць мова — ёсць нацыя, ёсць краіна! Няма мовы — няма нацыі, няма краіны!» З вуснаў Мечыслава Іванавіча прагучаў заклік не дазволіць пэўным сілам вярнуць Беларусь у мінулае. Ёсць усе падставы трывожыцца за суверэнітэт і незалежнасць Бацькаўшчыны, за нацыянальна-культурнае Адраджэнне і за ўсё беларускае на Беларусі.

Адзначу злавеснае маўчанне выканаўчай улады на з'ездзе. Не адгукнуліся на гэту значную падзею ні Кабінет Міністраў, ні Міністэрства адукацыі і навукі, ні Міністэрства замежных спраў, ні Менгарвыканкам. Афіцыйнае віншаванне, якое прыслала з'езду Міністэрства культуры і друку, стала прыемным выключэннем.

Амаль праігнаравалі падзею дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Не знайшло магчымасці і Беларускае тэлебачанне годна асвяціць работу з'езда. Вядома, маўчанне ўлады красамоўна сведчыць пра яе адносіны да набалелай грамадскай праблемы, дакладней, пра характар заклапочанасці дзяржаўных мужоў гэтай праблемай. Памятаеце вядомае выказванне Іосіфа Вісарыёнавіча: «Ёсць чалавек — ёсць праблема, няма чалавека — няма праблемы»? Ці не такім жа чынам і наша ўлада збіраецца вырашаць праблему жыцця беларускай мовы ў краіне?

Затое прынялі запрашэнне і выступілі на з'ездзе кіраўнікі некаторых палітычных партый і арганізацый: Зянон Пазьняк — ад БНФ «Адраджэньне», Мікола Статкевіч — ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Яўген Лугін — ад Беларускай сялянскай партыі, Мікола Купава — ад Каардынацыйнага камітэта абароны беларускай мовы. Ад газеты «Наша слова» выступіў галоўны рэдактар Эрнэст Ялугін.

У з'ездзе прыняла ўдзел духоўная эліта рэспублікі: дэпутаты Вярхоўнага Савета, навукоўцы, літаратары, настаўнікі, палітычныя дзеячы, рабочыя, сяляне. Сярод прысутных можна было сустрэць Станіслава Шушкевіча, Алега Трусава, Адама Мальдзіса, Усевалада Танану, Леаніда Лыча, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Содаля, Валянціну Раманцэвіч, Паўла Сцяцко, Аляксея Пяткевіча і многіх іншых вядомых людзей.

Галоўнай тэмай гаворкі на з'ездзе стаў лёс нашай роднай мовы ў школах і ВНУ. У выступленні Валянціны Башлаковай, старшыні Гомельскай гарадской рады ТБМ, Тамары Гарэлікавай, старшыні Полацкай гарадской рады, Віктара Вабішчэвіча, старшыні Давыд-гарадоцкай гарадской рады ТБМ, і ў выступленнях іншых сяброў гэта тэма прагучала вельмі балюча і надзённа.

**Валянціна Башлакова** расказала пра падзеі, якія адбыліся ў Гомельскай беларускай — адзінай у горадзе — СШ № 36 «Сузор'е», якую зараз спрабуюць абярнуць у рускамоўную. Так, 1 чэрвеня на яе дзвярах з'явілася лістоўка-аб'ява адпаведнага зместу.

Перад навучальным годам на дзвярах гэтай школы з'явілася новая «агітка»: «Уважаемые родители 1—4 классов школы № 36! Просим вас 1 сентября после торжественной линейки и далее не пускать своих детей в школу. Таким образом мы выявим своё волеизъявление на перевод наших детей на русский язык обучения». На пачатку кастрычніка г.г. адбыліся два пасяджэнні па пытанні пераводу гэтай школы на рускую мову навучання. Інспектар гарадскога аддзела адукацыі сп. Халіпаў пачаў сустрэчу з бацькамі з канкрэтнай прапановы: хто жадае, каб яго сын ці дачка вучыліся на рускай мове, падавайце заявы і памылка будзе выпраўлена. Спадарыня Башлакова спытала таварыша Халіпава: якую памылку ён збіраецца выправіць? Хіба выкарыстанне беларускай мовы ў навучанні ёсць памылка? Яна прасіла дапамогі ў тых, хто мае магчымасць абараніць гэтую школу ад русіфікатараў.

Арганічным працягам гаворкі пра лёс тых беларускамоўных школ, якія яшчэ змагаюцца за сваё існаванне, стала і выступленне **Тамары Гарэлікавай,** дырэктара адзінай у Полацку беларускамоўнай гімназіі. Сёлета пасля апошняга званка, які завяршаў навучальны год, у яе адбылася прыкладна такая гаворка з бацькамі:

— Ну что, вы сейчас откроете русские класы в гимназии (гэта пасля з'яўлення ў «Настаўніцкай газеце» артыкула, які тлумачыў бацькам іх правы)?

— Выбачайце, гэта адзіная на ўсю Полаччыну нацыянальная гімназія, і мы не будзем адкрываць класы з рускай мовай навучання!

— Это ваше личное мнение, товарищ Гореликова, а мы спросим у вышестоящего начальства!

— Калі ласка, дамагайцеся. Няхай адкрыюць тут і рускую гімназію, і польскую, і яўрэйскую, і нават японскую, але ж паважайце і нас, беларусаў! Дайце і нам хоць глыток паветра.

На шчасце, не ўсюды яшчэ ў нашай краіне народнай адукацыяй камандуюць халіпавы. У Полацку «вышестоящее» начальства аказалася на вышыні і дало такі адказ настаўнікам: «Не, гімназія застанецца беларускамоўнай. Побач ёсць рускія школы. Хто хоча, аддавайце сваіх дзяцей туды». «Сёння мы яшчэ ўтрымаліся, — сказала Т.Гарэлікава. — Сёння ў нас 14 класаў і ўсе прадметы выкладаюцца на беларускай мове, хоць і была прапанова зняць дырэктара з пасады».

**Вабішчэвіч Віктар**, у прыватнасці, сказаў: «Нам не трэба спяшацца ў адстаўку. Наўрад ці мы вінаватыя ў выніках таго трагічнага спектакля, які сёння адбываецца на Беларусі. Едучы на з'езд, я сутыкнуўся ў цягніку з украінцамі. Яны палітыкай не займаюцца, а толькі тэхнікай і гандлем. Дык вось яны мне сказалі: «Для нас галоўнае — гэта каб не чапалі нашу краіну, каб не чапалі нашу ўкраінскую школу і ўкраінскую мову». І ў мяне такое пажаданне, каб усе беларусы ўрэшце, нягледзячы на свае палітычныя погляды і свае заняткі, згодна заявілі: «Для нас галоўнае, каб не чапалі нашу Беларусь, каб не чапалі нашу беларускамоўную школу, каб не чапалі нашы святыні — герб і сцяг».

**Мікола Купава** нагадаў прысутным, што з канца мінулага года ўтвораны Каардынацыйны камітэт абароны беларускай мовы, у які ўвайшла большасць дэмакратычных партый і арганізацый, у тым ліку Саюз беларускіх пісьменнікаў і Таварыства беларускай мовы. Паколькі нас, відаць, чакае яшчэ адзін рэферэндум, зазначыў выступоўца, гэтым разам па аб'яднанні дзвюх дзяржаў — Беларусі і Расіі, то трэба ўжо сёння пачынаць адпаведную працу ўсім разам па яго папярэджанні. Гэта павінна быць асветная праца сярод насельніцтва, якое сёння чытае «Советскую Белоруссию», «Республику» і слухае па тэлебачанні прэзідэнта Лукашэнку. Мы павінны таксама пачаць падрыхтоўку да такой акцыі, як адстаўка прэзідэнта, які ўвесь час парушае Канстытуцыю. Неабходна даваць адпор такім правакацыйным шавіністычным матэрыялам, як артыкул Бялова ў газеце «Труд».

Каардынацыйны камітэт выпусціў спецыяльную адозву да насельніцтва, паведаміў выступоўца. Калі яе распаўсюдзіць сярод бацькоў і кожны бацька, прачытаўшы яе, асэнсуе тое, перад чым ён стаіць, то можна быць упэўненым, што многа беларускамоўных школ і класаў мы тым самым выратуем.

Каардынацыйны камітэт выступае ініцыятарам адраджэння Таварыства беларускіх школ, якое працавала ў Заходняй Беларусі перад Другой сусветнай вайной. Сп. Купава заклікаў дэлегатаў з'езда прыняць удзел у стварэнні бацькоўскіх камітэтаў і суполак па падтрымцы ТБШ.

# ВЕРУЕМ

## Моладзь і царква: у пошуках творчай сілы быцця

Сёння, калі адраджаецца цікавасць да рэлігіі, калі чалавека, які шукае шлях да Бога, вабяць да сябе шматлікія секты, новастворaныя «цэрквы» і ўсемагчымыя эзатэрычныя гурткі, важнае значэнне набывае з'яўленне кампетэнтна напісанай літаратуры па рэлігійных пытаннях. Кніга дыякана Андрэя Кураева, сучаснага тэолага, дэкана філасофска-багаслоўскага факультэта Праваслаўнага універсітэта, прысвечана менавіта праблемам духоўнага жыцця сучаснага чалавека. Артыкулы, сабраныя ў кнізе «Ці ўсё адно, як верыць?», палемічныя і цікавыя. Адзін з іх, «Чаму праваслаўе не зрабілася «маладзёжнай рэлігіяй», некаторыя багасловы прызнаюць спрэчным.

А.Андрэй Кураеў пачынае свой артыкул з высновы, што кожнаму ўзросту дадзена па-свойму ўспрымаць Бога, і таму чалавек, які ў дзяцінстве і юнацтве быў далёкі ад веры, які толькі на схіле гадоў пераступае парог царквы, ужо не зможа перажыць таго, што дадзена юным. Таму вельмі сумна, калі маладая душа, апынуўшыся адна сярод мноства людзей ужо старых, пераймае ад іх уласцівы ім спосаб царкоўнага жыцця, іх меркаванні пра тое, што значыць «быць хрысціянінам».

Юнацтву дадзеная здольнасць — зрывацца з месца і ісці туды, дзе бліснула Ісціна. Пазней чалавек неяк інакш шукае: «Я тут, у сябе дома, у сям'і буду жыць, але на ўсялякі выпадак пакіну фортку незачыненай — раптам хтосьці ўсё-ткі пастукае ў мой свет». І ў рэшце Вера робіцца толькі дадаткам да побыту, перастае быць творчай сілай быцця.

Айцец Андрэй лічыць, што Праваслаўе, з яго рыгарызмам, нязгодай спыняцца ў духоўным жыцці на «паўмерах», заклік да жыцця не ад «міру» і ёсць уласцівасць юнацкай веры.

Тым больш дзіўна, што праваслаўе так і не сустрэлася з моладдзю... А.Андрэй адзначае недастатковую місіянерскую дзейнасць сваёй царквы ў параўнанні са шматлікімі сектамі. Адзначае а.Андрэй і недасканаласць выданняў рэлігійнай праваслаўнай літаратуры: калі з'яўляюцца шматлікія рэпрынтныя выданні, што аднаўляюць стыль жыцця дарэвалюцыйнай Расійскай імперыі часоў адзінаверства, якія не ўспрымаюцца ў «рэлігійна дзікунскай краіне». Палохае яго і той факт, што большасць сённяшніх царкоўных кніг прысвечаны толькі дзвюм тэмам: блізкасці Антыхрыста і велічы Расіі. Галоўнай падставай адсутнасці моладзі ў Царкве і цікавасці самой Царквы да моладзі а.Андрэй лічыць ідэалогію алармізма, уласцівую некаторым святарам, — гэта плынь агульнаграмадскай думкі, калі паўсюль бачацца пагрозы, небяспекі, блізкія катастрофы. Не радасць, але пострах нясуць сёння некаторыя казанні. Выказвае аўтар артыкула і такую думку, што моладзь магла б прывабіць да рэлігіі наданне хрысціянству больш ваяўнічага характару. Бо гэта няпраўда, што Царква «задавальняе рэлігійныя патрабаванні вернуючых». Яе прызначэнне — абуджаць гэтыя патрабаванні, абуджаць прагу Бога.

Адзначае аўтар і яшчэ адну з'яву — большасць сённяшніх хрысціян вераць не ў Бога, а ў царкву. Яны любяць не толькі Хрыста, колькі самую веру, любяць праявы веры ў іншых людзей.

Акрамя таго, юнак не можа быць у царкоўным жыцці толькі пасіўным атрымальнікам. Ён мусіць мець нейкую сваю справу.

Сёння, як лічыць аўтар артыкула, ля ўлады тыя, хто мае комплекс віны перад Царквою, комплекс пакаяння. Аднак калі пакаленне зменіцца, можа здарыцца так, што вырашаць лёс народаў постсавецкіх дзяржаў будуць прадстаўнікі пакалення, якое ў большасці сваёй — прыхільнікі розных сектаў, рэлігійна-філасофскіх плыняў. І тады дарэмна будзе шукаць вінаватых у заняпадзе хрысціянскай Царквы — хто ў свой час перашкаджаў святарам гутарыць з людзьмі, чаму не хапала ў іх дару красамоўства, каб тлумачыць радасць ісціннай веры.

На заканчэнне артыкула а.Андрэй Кураеў прыводзіць канкрэтны прыклад: ён успамінае дзяўчыну, якая падышла да адной шчырай прыхаджанкі і спытала амаль евангельскімі словамі: «Што мне рабіць, каб прыйсці да Бога?». А ў адказ пачула: «Ты, дачушка, ідзі вось туды, купі тры свечкі, крыжык, ланцужок і аформіся на хрышчэнне...» Занадта часта прыходзіць чалавек у храм з імкненнем знайсці Бога, а яму расказваюць, як трэба ставіць свечку...

Безумоўна, не з усімі высновамі аўтара артыкула можна пагадзіцца... Аднак яго падыход да місіянерскай дзейнасці Царквы заслугоўвае павагі. Вось які прыклад прыводзіць а.Андрэй: уявім, што святар прыйшоў у школу і на працягу трох тыдняў гутарыў з дзецьмі. У выніку толькі адзін слухач пажадаў ахрысціцца. На наступны дзень пасля хрышчэння ў святара могуць быць два варыянты паводзін: у першым выпадку ён прыходзіць у клас і гаворыць: «Жыда-масоны вы праклятыя! Я ўжо тры тыдні гавару вам пра хрысціянства, а толькі адзін з вас вырваўся з-пад уплыву гнюснага рока і парнаграфіі!» А ў другім выпадку гаворыць: «Паглядзіце, якая ў гэтага Янкі фізіяномія шчаслівая. Гэта таму, што ён учора ахрысціўся. Дарэчы, гэтая радасць можа быць і вашай».

Андрэй Кураеў выбірае другі шлях. Думаецца, ён мае рацыю.

**Падрыхтавала Л.Ш.**

## Папа і Варфаламей І за супольнае святкаванне Юбілею 2000 года

«Каталікі і праваслаўныя павінны разам святкаваць вялікі юбілей 2000 года і разам да яго рыхтавацца», — падкрэсліваецца ў супольнай заяве Варфаламея І і Яна Паўла ІІ. Дакумент гэты быў апублікаваны 30 чэрвеня на заканчэнне трохдзённага візіту ў Ватыкан Варфаламея І.

Ян Павел ІІ і Варфаламей І выказалі надзею на хуткую і поўную еднасць Царквы і Касцёла. Адначасова было падкрэслена, што актыўнае супрацоўніцтва «магло б улатвіць уплыў Царквы і Касцёла на карысць спакою і справядлівасці ў сферы этнічных канфліктаў». Дакумент падкрэслівае, што ватыканскі візіт Патрыярха Варфаламея, які стаіць на чале 400 млн. хрысціян, зрабіў магчымаю адкрытую дыскусію ў шчырай брацкай атмасферы.

Падсумоўваючы вынікі гэтага дыялогу, Патрыярх і Папа адзначылі, што прывёў ён да паразумення ў справе сакраментальнага характару Касцёла і значэння апостальскай спадчыны.

«Тым самым было сцверджана, што Касцёл і Царква прызнаюцца ў сваім братэрстве і што нясуць яны супольную адказнасць за захаванне адзінага Божага Касцёла, у вернасці Божым планам і асабліва ў тым, што датычыць адзінства.

Паразуменне гэта не толькі ўлатвіла выйсце з існуючых цяжкасцей, але ўжо цяпер дазваляе каталікам і праваслаўным складаць супольнае сведчанне веры». Гэта ўяўляе незвычайную каштоўнасць на парозе трэцяга тысячагоддзя.

Гэты вялікі Юбілей будзем адзначаць, пілігрымуючы да поўнай адказнасці і да благаславёнага дня, калі зможам браць удзел у адным і тым жа Хлебе і ў адным і тым жа Келіху, у адзінай Эўхарыстыі Панскай.

Папа і Патрыярх заклікаюць усіх верных, каб разам духоўна пілігрымавалі да Юбілею. «*Разважанне, малітва, дыялог, узаемнае прабачэнне і братэрская любоў наблізяць нас яшчэ больш да Пана і дапамогуць лепш зразумець Яго волю, якая датычыць Касцёла і чалавецтва*».

Ян Павел ІІ і Варфаламей І заклікаюць вернікаў, каталікоў і праваслаўных да ўмацавання духу братэрства, якое бярэ свой пачатак з таго самага хросту і з удзелу ў жыцці сакраментальным.

«На працягу гісторыі, а таксама ў нядаўнім мінулым здараліся ўзаемныя крыўды і прыклады ўціску; таму просячы Пана аб вялікай міласэрнасці, запрашаем усіх да ўзаемнага прабачэння і праяўлення нязломнай волі ў мацаванні новых братэрскіх адносін і актыўнага супрацоўніцтва. Дух гэты павінен заахвоціць каталікоў і праваслаўных, асабліва там, дзе жывуць блізка адны другіх, да больш ажыўленага супрацоўніцтва ў галіне культуры, духоўнасці, душпастырстве, выхаванні і грамадскім жыцці, пазбягаючы ўсялякай спакусы шчырага дбання аб сваёй супольнасці за кошт іншай».

## Варфаламей І: еднасць Царквы і Касцёла — недалёкая будучыня

«Еднасць хрысціян ужо не з'яўляецца далёкаю і недасяжнаю будучыняю», — сказаў экуменічны Патрыярх Канстанцінопаля Варфаламей І. Патрыярх прыбыў 30 чэрвеня ў Венецыю пасля трохдзённага візіту ў Ватыкане.

У часе Св.Імшы, якая адбылася ў той жа дзень у базыліцы св.Марка, Патрыярх зазначыў, што войны ў Босніі і Чачні — ганьба для Еўропы. «Браты, перастаньце праліваць кроў, ужо зашмат смерці! Гэта вялікі грэх», — заявіў Варфаламей І.

Гэта быў першы візіт экуменічнага Патрыярха ў Венецыю.

Праваслаўная царква ў Італіі налічвае 100 тыс. вернікаў. У Венецыі існуе найстарэйшая і найбольшая грэцкая праваслаўная супольнасць Захаду пасля падзелу Касцёла ў 1054 г. На чале яе стаіць мітрапаліт Спірыдон, які суправаджаў Патрыярха Варфаламея І у часе візіту ў Ватыкане.

**Перадрук з інфармацыйнага бюлетэня «Каталіцкія навіны» № 3, 1995 г.**

## русіфікацыю!»

Устаноўчы з'езд гэтай новай арганізацыі мяркуецца правесці ў лістападзе г.г.

**Іван Драўніцкі**, прадстаўнік Мядзельскай раённай рады ТБМ, падрабязна спыніўся на адраджэнскай рабоце, якая праводзіцца на зямлі Максіма Танка. Адзначыў, што ўсе садкі Мядзельшчыны працуюць на беларускай мове. Ад імя вернікаў-каталікоў ён папрасіў прысутных на з'ездзе дэпутатаў Вярхоўнага Савета заступіцца за каталіцкую царкву, правы якой на Мядзельшчыне парушаюцца. Вернікі пытаюцца, напрыклад, чаму выканаўчымі ўладамі пры сустрэчы з Патрыярхам Алексіем ІІ праваслаўе названа «рэлігіяй № 1». Выходзіць , каталікі адносяцца да горшай катэгорыі вернікаў, хаця Канстытуцыя сцвярджае роўнасць канфесій перад законам? Чаму праваслаўю з грошай падаткаплацельшчыкаў выдзелены 1 млрд. рублёў, а каталікам — 0? Чаму ксяндзы і манашкі не маюць сталай рэгістрацыі і ў любую хвіліну могуць быць выдалены з Беларусі?

**Валянцін Костка**, старшыня Маладзечанскай гарадской рады ТБМ зрабіў аптымістычнае паведамленне: на ўвесь Маладзечанскі раён і горад усяго адзін рускамоўны першы клас. Астатнія — беларускамоўныя. Нездарма Маладзечна вылучаецца сваёй нацыянальнай самасвядомасцю.

Калі падсумаваць найбольш істотныя прапановы, якія прагучалі на з'ездзе, то іх можна звесці да наступнага:

Наш агульны абавязак — ратаваць Яго Вялікасць Беларуса ў прамым сэнсе слова. І найперш — праз абарону роднай мовы (Мечыслаў Грыб).

Юрыдычна нас адкінулі ў становішча яшчэ горшае, чым было да 1990 года, — да прыняцця Закона аб мовах і пачатку адраджэння. Таму дзейнасць ТБМ павінна зараз ісці ў трох накірунках. Першы — абарона нашай мовы ад тых, хто замахваецца на само яе існаванне. Другі — абарона роднай мовы ад непісьменнасці і бескультур'я. Трэці — выхаванне любові і пашаны да роднага слова, прапаганда яго дзівоснага хараства і чарадзейнай сілы (Ніл Гілевіч).

Пакуль урад Беларусі не будзе беларускім — вісіць небяспека, што мы страцім сваю родную мову. Таму на першым месцы павінен быць удзел у працы ТБМ палітычных партый. Я не разумею людзей, якія кажуць, што яны застаюцца па-за палітыкай. Мы ўсе ў палітыцы, нават тыя, што маўчаць, бо сваім маўчаннем яны ўмацоўваюць таталітарную сістэму. Адраджэнне сялянства цесна звязана з адраджэннем роднай мовы і нацыянальнай культуры. (Яўген Пугін).

Я раіў бы нашаму з'езду ТБМ звярнуцца да Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Федэрыка Маера і да самой гэтай сусветна вядомай арганізацыі заступіцца за беларускую нацыянальную культуру, якой пагражае катастрафічны заняпад. Тое чалавечае бяспраўе, што чыніцца на тэрыторыі Беларусі, можа пашырыцца і на іншыя дзяржавы і мовы. Беларускай інтэлігенцыі патрэбна маральная і культурная падтрымка ўсяго адукаванага, асвечанага чалавецтва. Мы павінны апеляваць да вядомых грамадскіх і культурных дзеячаў свету (Вячаслаў Адамчык).

Зараз беларускамоўныя супрацоўнікі на Беларускім тэлебачанні складаюць меншасць. Каб нашу меншасць ператварыць у большасць, а затым у еднасць усёй нацыі, прапаную паўсюль ствараць беларускамоўнае мікра- і макраасяроддзе. Кожны на сваім месцы павінен утвараць вакол сябе такі асяродак: у сям'і, на рабоце, сярод сваіх паплечнікаў і таварышаў. Наша зброя — агітацыя, прапаганда і рэклама. Патрэбна на Беларускім тэлебачанні на грунце праграмы «Роднае слова» (вядучы У.Содаль) стварыць новы — беларускамоўны канал, а з'езду пасадзейнічаць у гэтым (Данат Яканюк).

Захаваць беларускую школу ў той мяжы, у якой мы можам і абавязаны захаваць беларускамоўныя патокі студэнтаў ВНУ. Дзеля гэтага нам трэба ўзяць на ўлік кожнага беларускамоўнага вучня і студэнта (Алег Трусаў).

Патрабаваць ад Міністэрства адукацыі і навукі дазволу на адкрыццё беларускамоўных класаў у школах з любой колькасцю вучняў (гэта можна зрабіць, не перавышаючы колькасць класаў). Тады мы пабачым, што намнога павялічыцца колькасць дзяцей, якія хочуць вучыцца на беларускай мове; неабходна таксама шырэй выкарыстоўваць магчымасць супрацоўніцтва з рознымі канфесіямі — праваслаўнай, каталіцкай, уніяцкай. Святары уніяцкай царквы праводзяць значную работу па адраджэнні беларушчыны, але ў гэтай царквы мала парафій. Прыкладам адраджэнскай дзейнасці, якую праводзяць духоўныя асобы, з'яўляецца дзейнасць святара касцёла св. Сымона і Алены ў Менску Уладзіслава Завальнюка, які вядзе па радыё святую імшу на беларускай мове (Віктар Вабішчэвіч).

Стварыць Клуб беларускамоўных (Алесь Разанаў).

Падтрымаць газету «Наша слова» матэрыяльна на складкі сяброў рэгіянальных суполак Таварыства. Працаваць не толькі на адраджэнне мовы, але і на адраджэнне ўсёй беларускай культуры — гісторыі рамёстваў, тэатра, — што і робіцца патроху Полацкай суполкай арганізацыі ТБМ (Тамара Гарэлікава).

Падсумоўваючы вынікі з'езда, **Ніл Гілевіч**, абраны старшынём ТБМ на наступны тэрмін, адзначыў наступнае:

Ва ўсіх выступленнях быў праяўлены сур'ёзны канструктыўны падыход да праблем, якія ўзніклі ў сённяшняй сітуацыі, і дадзена палітычная ацэнка дзейнасці кіраўніцтва рэспублікі — вельмі крытычная. Сёння за мяжу ездзяць дзесяткі тысяч людзей, і яны бачаць, што пытанні мовы, культуры, гісторыі, духоўнасці народа ўвогуле, вырашаюцца не так, як у нас. Трэба пагадзіцца з думкай С.Шушкевіча, што мы можам вызначыцца і заваяваць аўтарытэт толькі культурай і нашай здольнасцю ісці на кампраміс там, дзе мы самі перш за ўсё ў гэтым кампрамісе зацікаўлены. Не будзем адштурхоўваць ад сябе ні Беларускую сялянскую партыю, ні Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду, ні БНФ.

Спадар Запрудскі даводзіў, што не трэба атаясамліваць ТБМ з іншымі палітычнымі партыямі. Вядома, атаясамліваць не трэба. Але дэлегаты некаторыя пераканаўча давялі, што супрацоўнічаць з усімі партыямі нашай культурна-асветніцкай арганізацыі нам трэба, бо кожная партыя прадстаўляе пэўныя слаі насельніцтва.

Пытанне «тарашкевіцы», як адзначыў сп. Вячорка, трэба абмяркоўваць асобна, і я з гэтым згодзен. Таму ў сваім дакладзе я і не закрануў гэта пытанне. Аднак гэта не значыць, што бездакорная пазіцыя тых, хто сёння спяшаецца ажыццявіць нейкую такую рэформу і зрабіць яшчэ адну літаратурную мову, апрача той, што ўжо ёсць.

Аднаўляць выданне часопіса «Наш край» па прапанове А.Трусава, думаецца, не варта. Будзем заставацца ўсё-такі Таварыствам беларускай мовы і займацца, паводле нашага статуса, праблемамі мовы. Сп. Вячорка прапанаваў нам нічога не абяцаць ад імя дзяржавы, бо яна нас не будзе падтрымліваць. Калі сапраўды дзяржава не будзе падтрымліваць наша Таварыства, то можна ў такім разе сказаць адно: тым горш для дзяржавы і, думаецца, тым горш для яе кіраўнікоў. І ўсё ж будзем настройвацца на тое, што кіраўніцтва дзяржавы — сённяшняе, заўтрашняе — будзе нам дапамагаць. А пакуль нам трэба падумаць, як у новых умовах здабываць сродкі на існаванне сваёй арганізацыі і на выданне газеты «Наша слова».

І.ПЛАТОНАВА.

